ян пятроўскі студзень 1985

# НА ВАСЬМІДЗЯСЯТЫЯ ЎГОДКІ

Надыходзіць дзень 20 студзеня 1985 году - дзень абыходу васьмідзесятых угодкаў ад дня нараджэньня. Семдзесят пяць гадоў з гэтага пэрыяду прыпадае на сьведамае жыцьцё - жыцьцё поўнае зацішша і хваляваньняў, радасьці і сьлёз, упадку і ўздыму, змаганьня і працы.

Перада мною выступаюць дзіцячыя гады. Падарожжы. Людзі і людзі... Думкі, і думкі, выражаныя вуснамі, пісаныя, друкаваныя; ідэі, цьверджаньні, як выражэньне перакананьня і веды; запярэчаньне цьверджаньня, як выражэньне сумліву - гэтага штурханца, неабходнага для кажнага поступу і кажнае новае ідэі. Перада мною разгортваецца Нагорная Пропаведзь, пазьней сьвет Гэльленізму і новае думкі з новымі ідэямі і пераваpтасьцяваньне ўсіх ведамых мне вартасьцяў з галіны духа. - Увесь камплекс - Быцьцё.

Малая фармальнасьць:

"У мэтрычнай кнізе Слуцкага Сабору за 1905 год у першай частцы адносна народжаных пад № 17 мужчынскага полу знаходзіцца наступны запіс: Тысяча дзевяцьсот пятага году студзеня 7 дня /1905 г. 7 студз./ у мешчаніна места Слуцка Дзямяна сына Адама Пятроўскага і ягонае праўнае жонкі Юстыны дачкі Андрэя абодвух праваслаўнага веравызнаньня радзіўся і 7 студзеня 1905 г.ахрышчаны сын Ян. Хрышчонымі бацькамі былі места Слуцка мяшчаня: Ян сын Сымона Ґурскі і панна Галена дачка Мікалая Андрусэвіч.

Тайніцу хрышчэньня завяршылі: Сьвяшчэньнік Лявонціі Наркевіч з псаломшчыкам-дзіяканам Мітрафанам Урбановічам. 1920 г. 6/24 травеня. Дакладнасьць гэтага гэтым пасьвядчаецца.

Настаяцель Слуцкага Сабору, Менскае Эпархіі,
Протоіерэй, /-/ І. Шэмецілло
Псаломшчык, /-/ Белагаловін."

Гэтак гучыць афіцыяльнае сьцьверджаньне прыходу чалавека на сьвет. З гэтае пары людзі праяўляюць зацікаўленьне адносна яго і новапрыбылы паступова пачынае цікавіцца людзьмі. Тут родзіцца ўзаемадачыненьне людзей, каторае будзе трываць праз усё жыцьцё чалавека і каторае, падобна да надвор'я, раз зіхаціць сонечным сьвятлом, а іншым разам праяўляецца з грымотамі ў непагадзь з дажджом.

На долю выпала мне радзіцца ў Слуцку на Школішчы. Школішчам тады называўся адзін з чатырох кварталаў места ў паўночна-ўсходняй частцы Слуцка. Капыльская вуліца, што бегла з поўначы на поўдзень да Раманаўскае тады вуліцы /шашá/, гэта заходняя мяжа Школішча; паўдзён-



Ян Пятроўскі - 1985



ГСПДРНЯ Юстына Пятроўская
Партрэт работы П. Сергіевіча /1940 г./

ная мяжа - сама шаша ў кірунку ўсходнім да невялічкага правага даплыву ракі Случ, званага Бычком, які тут крыжаваўся з шашою; згэтуль Бычком у напрамку сваіх крыніцаў, што знаходзіліся зараз-жа на поўнач за местам - гэта прыблізна ўсходняя мяжа. І далей, гарадзкімі агародамі мяжа бегла на паўночным скраю места, каб пасьля завярнуцца на захад і ўперціся тут зноў у Капыльскую вуліцу. Гэтулькі прыпамінаю я сабе сягоньня.

Назоў Школішча выводзіўся ад сынаґоґі - магчыма найбольшага будынку ў месьце, папулярна званага Школаю. Школа знаходзілася ў цэнтры Школішча. Апрача сьвятыні знаходзіліся ў ёй розныя памяшчэньні ўключна з крамкамі, у якіх мы, дзеці, часта куплялі капеечнае цаны тавары і кручкі на рыбу. На нашай вуліцы было шэсьць беларускіх хатаў і пяць жыдоўскіх.

Наша сям'я ня была малою. Пасьля сьмерці бацькі, каторага я не памятаю, Маці, Гаспадарыня Юстына Пятроўская была поўным аўтарытэтам у доме. Найстаршы брат, Апанас, быў усім нам, і братам, і бацькам, бо ён быў тым, каторы працаваў сьлёсарам у Бязручкіна і пераважна працаю сваею карміў сям'ю. За ім у чарговасьці веку ішлі: Клемка /Клямэнты/, Косьцік, каторы пасьля сьмерці Клемкі, у 1912 годзе выэміґраваў у Амэрыку. Пасьля іх ішлі: Наташа, Таня, Сьцёпа, Янка і Саша. Апошні, пару гадоў перад Першаю сусьветнаю вайною, памер на шкарлятыну.

Адрыс наш быў: Бычковая вуліца №44, места Слуцак, мінскае губэрніі. У нас было тры дамы: вялікі новы дом і дзьве старыя хаты. Новы дом быў выканчаны яшчэ перад сьмерцю бацькі і дзяліўся на дзьве аснаўныя часткі: адна частка замыкала ў сабе чатыры пакоі, другая - крыху меншая - прасторную кухню і сенцы. У сенцы ўваходзілася праз прыгожы з дахам ґанак. Наагул, увесь дом быў мадэрны. Напрыклад, з сенцаў, якія часта называна пярэдняю, уваходзілася ў першы пакой праз асабліва мадэрныя дзьверы: дзьве паловы іх адчыняліся і зачыняліся рухам у два напрамкі, пры гэтым адна з паловаў ці дзьве разам рабілі некалькі рухаў перад тым, як затрымліваліся ў сваей замкнутай пазыцыі бяз помачы звонку. Дах быў пакрыты ґонтамі. Усё гэта гаворыць пра тое, што і майстры былі, каторыя ведалі як падобнага роду дамы павінны былі быць будаванымі.

Сьвет, у якім я жыў, быў вялікім сьветам, што найменей гэтакім ён мне выдаваўся тады. На поўнач ад Бычковае вуліцы, перайшоўшы ўпапярок Падвальную /?/ вуліцу, тут-жа распасьціралася за агародамі роўнае поле з разьлеглым абшарам хлебных ураджаяў суседніх вёсак з сенажацьцямі. За гарадзкім выганам знаходзіліся могілкі - месца частых нашых наведваньняў, на якіх хаваліся нашыя блізкія і далёкія сваякі; на захадзе - даходзіў

аж да Сьвятатроіцкага манастыру на канцы Манастырскае вуліцы. Часамі ішлі мы, малыя дзеці, па грыбы ў Граду - бярозавы прыгожы лес - або лавіць ракі недзе далей на раку Случ, але дзе дакладна гэтыя месцы былі, я на ведаў тады і ня ведаю сягоньня. Памятаю толькі, што рака там была значна вужэйшаю ад тае шырыні каля Збаравога мосту або Млыновага, што знаходзіліся ў месьце. Каля Збаравога мосту мы лавілі келбы вельмі сумліўнымі вудачкамі, якія мы рабілі самыя і, адзін ад аднаго атрымлівалі першыя лекцыі плаваньня, вучачыся перабіраць рукамі ў вадзе, "як робяць гэта сабакі". Была гэта ціхая пара дзіцячага жыцьця і першых уражаньняў.

Я мушу падчыркнуць тут тую сузгоднасьць у нашай сям'і, якую назіраў я зь першых дзён сваіх і да апошняга дня нашага супольнага і расьцярушанага пазьней жыцьця. Ніколі ня было сваркі дома, ніхто нікога ня крыўдзіў, ня хлусіў і не ашукваў. У гэтым гарманійным жыцьці можа крыцца адмоўны пачатак. Калі чалавек гэтак узгадованы, выходзіць у шырокі сьвет, ён ня мае даволі вострага змыслу быць асьцярожным, ён не здагадваецца хутка, што могуць быць людзі, каторыя будуць старацца падставіць яму нагу, ашукаць яго, і часта скрыўдзіць да болю. Ён часта адчыняе гасьцінныя дзьверы для чалавека, не падазраючы зусім, што ён упускае ў свой дом правакатара, каторы з тою адзінаю мэтаю прыходзіць, каб з накінутае гутаркі цяперака, рабіць паклёп заўтра. Або наадварот, ён сам, будучы запрошаным, перастунае парог дому, у якім ужо на яго расстаўлены сеці найгоршых замераў і злое волі. Гэткім я быў, калі пазьней кіраваны найлепшымі пачуцьцямі, выходзіў у новы і чужы мне сьвет. Часамі да гэтага далучалася арыгінальная інтэрпрэтацыя тае ці іншае праўды; або нясьведамасьць тае рэчы, што кажная неадказваючая праўдзе нэґатыўная весткa пра цябе і пачутая табою, не павінна быць пакінутая без адказу, але тут-жа на месцы рашуча запярэчанаю мае быць табою. Падобнае нешта здарылася са мною некалькі месяцаў перад Другою сусьветнаю вайною ў Варшаве. Правакацыя з боку тых, з каторымі ламаўся я хлебам за супольным сталом, шавінізм і няздольнасьць кіраўніцтва, хутка ўжо ў першых днях вайны абярнулася ў разьдзьмуханае полымя, каторае крыху пазьней выкінула мяне і іншых з Варшавы на непатрэбнае вандраваньне і падарожнічаньне з аднаго краю ў іншы гэтак доўга, аж,пасьля глупага змаганьня з магутнымі гэтага сьвету, асеў я, ужо са сваею сям'ёю, у Злучаных Штатах. Гэтым узьнік канфлікт, у выніку якога на працягу 46 гадоў напісана два аграмадныя томы дакумэнтаў, якія адлюстроўваюць перажываны час, дзеючыя інстытуцыі і характары, часта прамінэнтных, людзей. Жар гэтага канфлікту яшчэ і сягоньня дрэмле пад гарачым попелам упярэджаньня.

Калі сягоньня, азіраючыся на пройдзены цярністы, у

гэтым дачыненьні, шлях, я магу мецъ пачуцьцё дазнанае крыўды, тады ўраўнаважваецца яно этычным аспэктам, зь якім Плятон у дыялёгу "Ґорґіяс" зьвяртаецца да нас і кажа: "Найгоршае на сьвеце зло - гэта тварыць несправядлівасьць,... і што несправядлівыя няшчаснымі зьяўляюцца". На гэтым месцы і ў гэтым часе магу спакойна сказаць: Нікога я ў жыцьці ня скрыўдзіў або, ня меў замеру каго-небудзь скрыўдзіць.

Нацыянальнае прабуджэньне прыходзіла паступова.

Зараз на пачатку Першае сусьветнае вайны наш дом быў вызначаны гарадзкою ўправаю, як свайго роду гатэль для афіцэраў расейскае арміі, пасьля таго, як недалёка на захадзе ад Слуцка ўстабілізаваўся фронт. Для малога хлапца быў гэта праўдзівы парад дагэтуль нябачанага войска, выстраенага і багата апранутага рознага веку, ад маладзенькіх прапаршчыкаў пачынаючы, і да старых палкоўнікаў, гэтак пяхоты, як і конных частак. З выбухам рэвалюцыі ўвесь гэты вобраз шчэз.

У часе першых месяцаў керанщчыны ўправа яшчэ час ад часу прысылала людзей на начлег, але былі гэта ўжо цывільныя людзі.

Аднойчы ў гэтым часе я быў сьведкам гэтакае сцэны:

Адзін з пакояў займаў нейкі мужчына. Быў ён хваравіты крыху і пераважна ляжаў у ложку. Аднойчы ён папрасіў чаю. Калі маці падала яму чай і ледзьве перайшла ў іншы пакой, дзе я стаяў і не зачыніла яшчэ дзьвярэй, як ён азваўся да мамы:

- Иустина Андреевна, кто вы будете?

- Мы рускія, - адказала маці.

- Нет, - адказаў ён, - не русские, вы - белоруссы.

- А хто яго ведае, - заўважыла на гэта маці, - мы рускае веры...

Сцэна гэтая асталася ў мяне ў памяці аж да сягоньня. Тады я першы раз пачуў, што мы беларусы.

Хутка пасьля гэтага, усё зьмянілася ў нашым доме. Цяперака ў наш дом хлынула беларуская моладзь, што вучылася ў школах. Былі гэта пераважна ў розным веку хлапцы і дзяўчаты з хутароў. За ўтрыманьне і кватэру плацілі яны, ці ляпей сказаць, іхныя бацькі харчавымі прадуктамі.

Хоць і была гэта беларуская моладзь, я ня памятаю, каб хто-небудзь зь іх кіраваўся беларускаю матывацыяю. Я ніколі ня бачыў беларускага падручніка ў іх. Праўда, было гэта ў першых якіх-небудзь васемнаццаці месяцах рэвалюцыі. - Адзін вучань у маім веку, Францішак /брат Міхася - па локаць бяз рукі ад нараджэньня - і Лук'яна/ памятаю вучыў верш напамяць, які пачынаўся словамі: Jutro moje, jutro. Я ўзіраўся на яго і дзівіўся, што ён чытае нейкія літары, якіх я не разумею і бачу першы раз. Сягоньня я здагадваюся, што Францішак належаў да

шляхэцкае сям'і, якая па дарозе: праваслаўе - вунія - каталіцызм - польская вера - стаецца польскім элемэнтам у нас. Быў у Слуцку, як казалі тады, польскі касьцёл, на плябані якога праўдападобна Франціс вучыўся пра сваё jutro і цураўся з часам беларускасьці.

Аднойчы вечарам сузграмадзіліся мы ўсе ў кухні. Лук'ян, старэйшы брат Францішка і вучань гімназыі, галасна для прысутных чытаў казкі. Хоць казкі чыталіся па-беларуску, аднак акцэнт клаўся на смешнасьць апавяданага.

Восеньню 1919 году выехалі мы - маці, дзьве сятры і я, як думалі тады, на кароткі час у Вільню. Здарылася гэта пасьля таго, як усё, што вымененым магло быць,было выменена на хлеб. У гэтым часе польскія легіёны акупавалі гэтую частку нашае тэрыторыі, і адпаведныя акупацыйныя ўлады выставілі свайго роду пропуск на пераезд. У гэтым пропуску гаварылася, што мы беларускае нацыянальнасьці. Праўда, чытаў я гэты дакумэнт некалькі гадоў пазьней, пасьля таго, як навучыўся чытаць папольску.

У Польшчы пражыў я да часу выбуху Другое сусьветнае вайны. Пасьля жыў у савецка-летувіскай Вільні. Пазьней жыў у Нямеччыне, Аўстрыі, а ў 1953 годзе прыбыў, ужо са сваею сям'ёю, у Злучаныя Штаты. Ведама, гэта ня было плянаванае вандраваньне, яно барджэй было рэзультатам шалёнасьці чалавека, каторы трымаў уладу ў васяродзьдзі заходня-эўрапэйскае цывілізацыі.

Усюды, дзеколечы я жыў маім першым абавязкам было мець на ўвазе дабро мае Бацькаўшчыны.

Шматлікія працы людзей, адкрыцьці, вынаходы часта ставаліся рэчаіснасьцю прыпадкава, без якога-небудзь высілку ці плянаваньня зь іхнага боку. Проста зьбег абставінаў прыводзіў да таго, што нехта ўпаў на думку, зрабіць гэтак і ня інакш, пайсьці ў гэтым напрамку і ня ў іншым або ставаўся пачынальнікам ідэі, пра якую ніколі ня думаў. Калі гэта праўдаю ёсьць, што чалавек зьяўляецца адным маленькім элемэнтам у Парадку або Космасе, тады ён як і ягоныя пачынаньні будуць гарманізавацца з Правапарадкам, які назіраем навакол нас у Натуры. Усё, што прыходзіць да быцьця, праходзіць свой натуральна рост.

Для прыкладу, маё спатканьне з Мар'янам Пяцюкевічам у 1927 годзе ў Школе Падхаронжых у Цешыне, год пазьней, бо ў 1928 годзе, зусім прыпадкава і жартабліва прыводзіць мяне на зграмаджэньне на Троцкай вуліцы № 7 у Вільні. Згэтуль простае гэтае здарэньне з часам стварае для мяне прадшкольле для філязафічнае думкі.

Тыя з нас, каторыя займаюцца якою-небудзь выдавецкаю пэрыядэчнаю працаю, ведаюць, як цяжкою часамі гэтая

праца можа быць.Цяжкасьць гэтая пабольшваецца прапарцыянальна да паменшваньня працуючага пэрсаналу, а нястача сродкаў матэрыяльных яшчэ болей абцяжвае зацікаўленых.

Выдаючы "Сьветач Хрыстовае Навукі" на працягу даўжэйшага часу, гэтак дома, як і на замежжы, часта я асабіста адчуваў цяжар, бо, дзякуючы спэцыфічным абставінам, пераважна аднаму трэба быць і рэдактарам, і карэктарам, і адміністратарам і ўсім іншым. Цяжкасьць гэтая асабліва вяжацца з фактам пэрыядычнасьці публікацыі. Пасьля труднасьцяў, пераможаных над выданьнем бягучага нумару, рэдактар слушна чакае на заслужаны адпачынак. Але не пасьпее ён разаслаць апошні нумар, як бачыць, надыходзіць бязьлітасны тэрмін. Трэба зноў як найхутчэй пачынаць працу над выданьнем наступнага нумару, калі нумар мае быць у руках чытача на прырэчаны яму тэрмін, і гэтак зноў, і г.д.

Нешта падобнае здарылася са мною ў другой палове 1966 году. Трэба было сьпяшацца, каб запоўніць чарговы нумар. А пры навале іншае працы, ня было часу ані магчымасьцяў, і я чуўся змучаным. Да гэтага ў такіх выпадках даходзіць яшчэ і тое, аб чым ведаюць шматлікія з нас, часамі здараецца гэтак, што ніяк немагчыма што-небудзь выкрасаць зь сябе. Ну проста ня пішацца і ўсё.

Каб памагчы сабе, прыйшло мне на думку, выдрукаваць у часапісе "Абарону Сакратаса", друкуючы ў некалькі наступных нумарох. Маючы гэта на ўвазе, я пачаў перакладаць дыялёг з ангельскае мовы, ужо хоць-бы затым з ангельскае, што адзін гэты тэкст, падараваны мне калісьці сынам, знаходзіўся пад рукою.

І тут мала па-малу пачалося тое, што да чаго я ня меў ані плянаў, ані замераў на прышласьць.

Укруціўшы ў машыну аркуш паперы і, разгарнуўшы ангельскі тэкст перад сабою, я пачаў чытаць, і тут-жа сустрэў неспадзяваныя труднасьці. Мой тэкст пачынаецца словамі: How you felt, gentlemen of Athens, when you heard my accusers... і г.д. Джэнтльмен? - думаў я. Як гэта перакласьці? - гаспадары? паны? спадары? ці мо грамадзяне? І колькі я ня думаў нічога ня выходзіла, а тое, што выходзіла, не падабалася мне.

Наступіў мамэнт зьнеахвочаньня. Гэта ня тое хуткае і лёгкае для часапісу, якое я шукаў, - думаў я. Але, як той казаў, на тую цікавасьць, каб даведацца, як гэта выглядае ў грэцкім тэксьце. І тут зноў перашкоды, як мне здавалася: "Дзе Рым, а дзе Крым"! Дзе Грэцыя, а дзе Амэрыка. Скуль цяперака дастаць грэцкі тэкст? Гэтак, будучы зьнеахвочаным, пайшоў я ўсё-ж аднойчы на Саляйна Стріт /галоўная вуліца ў Сыракузах, Н.Ё./ у кнігарню, хоць-бы ўжо пераканацца, што рэч гэтак маецца, як думаю. І на маё зьдзіўленьне, я зараз-жа знайшоў на пол-

цы тое, што хацеў знайсьці! Знайшоў поўны тэкст "Абароны..." і іншыя ў грэцкай мове з камэнтарамі да тэксту. /Хутка пасьля гэтага знайшоў я большых памераў і клясычны слоўнік Грэцка-Ангельскі і Ангельска-Грэцкі з дадаткам у грэцкай мове імёнаў уласных/. Я барждзэй дадому. Супроцьпаставіў тэксты. Ды дзе-ж там! Неба і зямля. Аказалася, наколькі няясным быў /для перакладчыка/ ангельскі тэкст, нагэтулькі зразумелым грэцкі: Тут я чытаю ἀνήρ, ἀνδρός /муж, мужы/, як пабеларуску: муж або мужы /даверу/, муж стану, дзяржаўны муж... Перамогшы гэтую першую перашкоду, я пачаў ісьці наперад. Так збудаваў першы сказ. Паправіў і яшчэ перапісаў. Пасьля яшчэ сказ, пасьля бачыну. Гэтак бачына за бачынаю я пераклаў цэлы дыялёг.

Працуючы над гэтым першым дыялёгам, супроцьпастаўляю два ўражаньні, два падходы да чытанага. Цяперака я спасьцерагаю болей і болей выразна, што ляпей разумею Плятона, ягоныя мэты, я бачу выразна людзей, іхныя імкненьні, характары, змаганьне староnаў за пагляд; тут выступае паняцьце прынцыпу, справядлівасьці, тут я бачу бескампрамісовае судыраньне паміж дабром і злом. Гэта мяне заахвочвае і падбадзёрвае.

Я трымаю ў руцэ зноў перагледжаны і начыста перапісаны дыялёг і ўзважваю значэньне дакананага. Ён падабаецца мне. Але ці спадабаецца ён іншым? Хто гэтыя іншыя? Некаторыя зь іх на пачатку адкінулі думку гэтакага перакладу. Гасп. Ю. Віцьбіч згадзіўся прачытаць і прыслаць свой водклік. У васнаўным ён згадзіўся з перакладам і прыслаў рад тэрмінаў, якія, як правінцыяналізмы: "тамака", "нямашака", павінны быць вылімінаваны - іншыя, як "хадзіцімеш", "ведацімем" - неўжывальныя ў нас; замест "Плятон", трэба пісаць "Платон" і пад. Сваею апініяю ён мяне здаволіў і заахвоціў.

Пераклаўшы "Абарону Сакратаса", сустрэўся я з тэкстам дыялёгу п. т. "Крытон". Ён выдаўся мне вельмі беларускім. У ім закраналіся ўсе тыя аспэкты пытаньняў, якімі займаюцца ў сваім жыцьці ўсе дочкі і сыны беларускага народу. Тэхнічна, у параўнаньні з "Абаронаю Сакратаса" тэкст "Крытона" выдаўся мне невялічкім. Пасьля нейкага часу ён быў перакладзены.

Цяперака перада мною выступаў самы, як мне здавалася, найбольшы і найлепшы дыялёг з усіх у мяне пад рукою - гэта "Файдон". Калі-б я яго пераклаў, - думаў я, - атрымалася-б дзіўная і вялікая цэласьць у хворме трох Плятонавых дыялёгаў. Калі да гэтае пары я з кім-небудзь яшчэ раіся, дык цяперака я схаваўся сам у сабе. Ніхто з нашых людзей на эміграцыі, як і найбліжэйшыя ў сям'і ня ведалі, што перакладаю найдаўжэйшы дыялёг. Узброіўшыся тайнасьцю, перамогшы ў сабе нецярплівасьць, і гэтым адужаўшы, я мала па малу і з дня на дзень рабіў,

хоць і павольны, але ўсё-ж поступ наперад. Пасьля даўжэйшага часу, надыйшоў дзень, калі я трымаў у руках перакладзены і нанава некалькікратна перапісаны ўвесь тэкст. Цяперака я ўжо меў тры дыялёгі да друку.

Аставалася яшчэ адна рэч - трэба стварыць уступнае слова да выданьня. Зноў пачалася праца вывучаньня прадмету, як гэткага. Розныя камэнтары ў розных выданьнях, на розных мовах праходзіліперада мною адны за другімі. Трэба бліжэй падыйсьці да сьвету і асяродзьдзя, у якім грэцкія тэксты прыходзілі да быцьця, да таго мамэнту, калі Плятон пісаў і ў якіх абставінах, як ён думаў, у што верыў. Што Плятон гаворыць чытачу на працягу гэтак доўгага часу, і што ў гэтым важным ёсьць, гэтаксама і для нас - беларусаў, што жывуць у нашым стагодзьдзі.

Пасьля гэтага, праца набору, карэкта і друк.

Стрымаўшы дыханьне, чакаў я на рэакцыю беларускага чытача.

Першы водклік надыйшоў ад гасп. С. Жамойды з Пассаіку /Злучаныя Штаты/. Сярод іншага ён даслоўна пісаў: "Шчыра дзякую за прысланую кніжку 'Плятон - Выбраныя Дыялёгі'... Вы зрабілі вялікую працу, выдаўшы Плятона ў беларускай мове. Беларускае Грамадзтва павінна быць Вам удзячнае".

Мала словаў, але шмат сказана.

Працуючы над перакладам першых трох дыялёгаў, унікаючы глыбей у зьмест, у новыя ідэі і, студыюючы адпаведныя камэнтары, я знайшоўся, сказаў-бы, у сэсыі шматлікіх камэнтатараў, якія ўсестаронна засяроджваюцца над тым, што праз стагодзьдзі стаецца ведамым культурнаму сьвету, як плятонізм. Ёсьць што паслухаць і ёсьць аб чым думаць. Перада мною выступаюць новыя, гэтак як і старыя вартасьці з галіны духа, якія цяперака прапускаюцца праз каталізатар. Адбываецца працэс крысталізацыі сьветапагляду, у якім першае месца адводзіцца розуму. Цяперака адвага дазваляе выражаць думку ў пераканаўні, што яна падмацавана сілаю праўды. Мне здалося, што мне пашчасьціла вылузацца з-падзямельнае пячоры - я крочу ў напрамку жыцьцёдайнага Сонца.

Маё пазнаньне старажытнае грэцкае мовы выводзіцца з Тэалягічнае Школы, якая на пераломе дваццатых/трыццатых гадоў знаходзілася ў Клярысаве пад Варшаваю.

Мамэнту гэтага я не забыў да сягоньняшняга дня.

Аднойчы адчыніліся дзьверы і ў нашу клясу ўвайшоў чалавек. Ён прадставіўся нам, як Ігнатовіч і сказаў, што ён будзе вучыць нас грэцкае мовы. Пасьля гэтага ён даў кажнаму з нас экзэмпляр Новага Запавету ў грэцкай мове. - Чаму? Я ня ведаю, але я абрадаваўся, здаецца, магчымасьцю пазнаньня нечага новага. Тут-жа перада мною ўзьнікае візыя: быццам знаходжуся я ў нейкім цьмяным

пакою з вокнамі, завешанымі нейкімі сутонными фіранкамі, якія маюць быць зараз разгорнутымі, і я ўжо бачу праз расчыненыя вокны шырокую панараму: Навакол усё заліта сонечным сьвятлом. Відна зелень, прыгожыя хварбы квецьця, летнія воблакі і чысты паветра. І я радуюся. Дзіўны гэта вобраз. І радасьць. Чаму? Нашто? - Ня ведаю. Пасьля пяцідзесяцці шасьці гадоў сягоньня, я ўсё яшчэ маю перад сабою гэты вобраз!

З малымі выняткамі, усе падобнага роду студэнты, якіх давялося мне калі-небудзь спаткаць, незалежна ад таго, якую яны скончылі, у гэтым да чыненьні, школу, пераважна забывалі пазнанае. Для прыкладу, адзін з нашых ведамых людзей калісьці пісаў мне: "Я гэтаксама вучыўся грэцкае мовы ў Духоўнай Сэмінарыі, мы чыталі Арыстотэлеса, але ўсё забыў". І гэта натуральна. Аднак у маім выпадку рэчы ўкладваліся інакш. Я ня ведаю чыму, я любіў грэцкую мову. І гэта магчыма было прычынаю, чаму я трымаў жывым сам працэс чытаньня, што заўсёды важным ёсьць пры гэтакіх мовах, ці хоць-бы з частае патрэбы знайсьці тое ці іншае слова або выражэньне думкі ў арыгінале, каб падмацаваць першакрыніцаю тое ці іншае цьверджаньне, калі выступае гэтага патрэба. Так ці інакш, я часта чытаў грэцкі тэкст. У часе вайны, разам зь іншымі важнымі рэчамі, я згубіў грэцкі запавет. Але хутка пасьля вайны Экумэнічная Камісыя для Пастарату сярод ваеннапалонных з сялібаю ў Ґэнэве /Швайцарыя/ прыслала і мне экзэмпляр Новага Запавету ў грэцкай мове. - Да гэтага даходзіць факт, што на працягу апошніх 19 гадоў, будучы заанґажаваным у перакладніцкай працы і, паралельна працуючы над Клясычным Грэцка-Беларускім Слоўнікам, я стала паглыбляю свае веды ў гэтай сфэры.

З увагі на тое, што паміж моваю перакладу і моваю арыгіналу ляжыць доўгае прамежжа часу, кажны перакладчык, павінен ведаць, што ён уваходзіць у доўгую чараду перакладчыкаў і іхных твораў - перакладаў; што ён павінен вычуваць важнасьць прадпрынятае ім працы, як і адказнасьці, якую ён бярэ на сябе. З гэтае прычыны перакладчык павінен цікавіцца яшчэ і іншымі мовамі. Кажучы <u>іншымі мовамі</u>, я маю на ўвазе, у першую чаргу, нямецкую мову і ангельскую.

З пачаткамі расейскае мовы я запазнаўся яшчэ ў Слуцку. Перш, адведваючы Манастырскую школу на Трайчанах, а пазьней два гады хадзіў у Прыходскую школу на Юр'еўскай вуліцы. Польскую мову здабыў у часе фармальнае адукацыі, якая дазваляла мне займаць пазыцыю Пастара ў Варшаве ў вадной зь дзьвюх канґрэґацыяў у месьце, як і становішча Сакратара Гадовае Канфэрэнцыі Польскае Царквы Мэтадыстых, будучы выбраным на гэтай-жа Канфэрэнцыі ў 1938 г. і зацьверджаны Япіскапам Артурам Дж. Морам.

Нямецкую мову пачаў прысвойваць у сярэдняй школе як

прадмет, а пазьней у штодзенным абыходзе, жывучы ў Нямеччыне а пасьля ў Аўстрыі на працягу чатырнаццаці гадоў. З пачаткамі ангельскае мовы сустрэўся я ў тэалягічнай школе ў Клярысаве, а пазьней адзін год адведваў ведамую ў Варшаве Вышэйшую Школу Ангельскае Мовы, што знаходзілася на Пляцу Збавіцеля, якая, наколькі мне ведама, яшчэ і сягоньня там існуе. Украінскі тэкст я чытаю, гэтаксама як і чэскі. Пачаткі лаціны гэтаксама вывадзяцца з сярэдняе школы.

Школа беларускае мовы - гэта школа адносна доўгалетняга майго жыцьця. Першым і найлепшым маім прафэсарам гэтае мовы была мая добрая Маці Гаспадарыня Юстына Пятроўская. Пасьля яе ішлі прафэсары: Р. Астроўскі са сваім Правапісам Беларускае Мовы і Б. Тарашкевіч зь Беларускаю Граматыкаю і г.д., і г.д.

Калі ўжо зайшоў я з мовамі і вучыцелямі гэтак далёка, ня можна, тады, абыйсьці моўчкі і маіх райцаў-крытыкаў, каторым, і гэта заўсёды праўдзіва, я шматлікае ў сваей працы заўдзячваю. Адны зь іх на пачатку зусім адступіліся ад мяне. І гэтым яны мяне навучылі простае рэчаіснасьці: у сваей дзейнасьці адказным за вынік, усё роўна якім ён будзе, зьяўляюся я адзін, і толькі я. Ня трэба глядзець на гэта, як на рэторыку, не. Гэта праўда. З гэтае пары трэба да кажнае дробязі адносіцца з вычуцьцём адказанасьці, на кажнае выкананьне трэба зьвяртаць асаблівую ўвагу... Усё гэта чыніла чалавека здысцыплінаваным, паважным у працы і прафэсыянальным. Я пайду тут крышку далей і скажу /вылучна між намі/,што, калі-б ня было крытыкаў, ня прыйшоў-бы да быцьця ў трох кароткіх выданьнях Клясычны Грэцка-Беларускі Слоўнік. Так. На гэтым месцы я ня толькі ўспамінаю іх, але і падзяку сваю выражаю пад іхным адрысам.

Пасьля першага ліста,водклікі не пераставалі і сягоньня не перастаюць надыходзіць. Ня гледзячы на навасьць самога аб'екту, усе аўтары пераважна ў вышуканых словах падзяляюць маё захопленьне плятанізмам, і філязофіяю, і жадаюць далейшых посьпехаў у працы. Няхай будзе ведамым, тады, для іх і для цэлага сьвету, што яны сваею маральнаю і матэрыяльнаю падтрымкаю для мяне і нас, сталіся супрацоўнікамі ў справе, якая будзе доўга жыць сярод нас. Будзем падтрымліваць спадзею, што супольнымі сіламі выканаем да канца добрую справу, якая яшчэ чакае на свой працяг.

Зьбег абставінаў прыводзіць да таго ці іншага выніку. Праўда,уся біяграфія чалавека - гэта сход абставінаў. У маім выпадку, прыбыцьце ў Злучаныя Штаты, у значнай меры спрычынілася да посьпеху.

Адзін з маіх крытыкаў аднойчы, сярод іншага, пісаў: "Мала быць энтузыястым у гэтай справе ды разумець па-

трэбу для нас веданьня антычнае культуры". Мне здаецца, што ў спляценьні абставінаў, "энтузыястым" абавязкава трэба быць "у гэтай справе". Я быў і я ёсьць ім! І затым, што я быў энтузыястым - зь яго, з гэтага энтузыязму, чэрпаў я сілу і прыцяжэньне да плятанізму і перакана844ньне патрэбы "для нас веданьня антычнае культуры". На гэтым месцы хачу сказаць яшчэ і яшчэ раз: патрэба гэтая ў нас выступае наґвалт! Трэба мець нахіл да філязофіі. І гэты нахіл, - сказаў-бы я, - "быць філёзафам", павінен быць у перакладчыка, і я меў яго, і маю яго сягоньня.

У вабсяг абставінаў мусіць быць уключана свабода слова, бясстрашша сказаць тое, што сказаць перакладчык хоча, што пакрываецца зь ягоным сумленьнем і ягоным перакананьнем. Бо тут ня толькі ідзе пра мову, пра словы. Тут ідзе пра пагляды, пра ідэі, пра сьветапагляд, пра змаганьне і стойкасьць у змаганьні супроць зла і за дабро. Тут ідзе пра вялікую свабоду выражэньня слова для чалавека. Ён мусіць быць вольным ад уплываў звонку, і ў першую чаргу, ад уплываў эканамічных як і палітычных.

Гэта тут ствараюцца для перакладчыка абставіны, сказаў-бы, казачныя: эканамічная структура краю запэўнівае мне ў кажным дню хлеб на стале, і маё замчышча - дах над галавою ў маім доме, і ў ім цяпло сярод зімовае сьцюжы, і прахалоду ў поўдзень пякучага дня летам.

Сягоньня ў маім працоўным кабінэце знаходзіцца пад рукою болей як пяцьдзесят слоўнікаў, якія перакліkваюцца між сабою ў наступных, у парадку альфабэтычным, мовах: ангельскай, беларускай, грэцкай, старажытна грэцкай, лацінскай, нямецкай, польскай, расейскай, украінскай, чэскай. Апрача гэтых слоўнікаў, я маю ў сябе пад дахам тэксты патрэбных дыялёгаў Плятона ўарыгінале або ў старажытна-грэцкай мове, у нямецкай, ангельскай /некалькі выданьняў/, у расейскай /пару выданьняў/, у польскай; і далей дзьве энцыкляпэдыі ў ангельскай мове, і адну - у беларускай. Апрача гэтага я маю пад рукою ў васьмі томах у ангельскай мове Энцыкляпэдыю Філязофіі. Да гэтага даходзіць яшчэ пяцьдзесят чатыры томы г. зв. Вялікіх кніг, каторыя абыймаюць наш культурны сьвет, пачынаючы Гомэрам і канчаючы Фройдам з тэматычным разьбіцьцём усяго зьместу кніг. - Да гэтага трэба яшчэ і той шчасьлівы выпадак падчыркнуць, што прыблізна ў гэтым самым пэрыядзе часу зь Менску пачалі надыходзіць добра апрацаваныя выданьні з галіны нашае сьвятое мовы: Два большых памераў томы слоўнікаў - Беларуска-Рускі і наадварот - Руска-Беларускі. Да гэтага даходзяць, як да сягоньня, чатыры томы і першая кніга пятага тому Тлумачальнага Слоўніка Беларускае Мовы. І ведама, успомнутая ўжо Беларуская Энцыляпэдыя! Гэты дапаможны на эміграцыі матэрыял у вялікай ступені дапамагае переклад-

чыку на дарозе, у першую чаргу - паўстрымаць спасьцярожную ад даўна анархію ў гэтай дзялянцы і па-другое - дадатня ўплывае на працэс кансалідацыі і стабілізацыі нашае літаратурнае мовы.

Апрача гэтага, да мае дыспазыцыі ў Бібліятэцы Флярыдскага Ўнівэрсытэту ў Ґэйісвільл знаходзіцца два міліёны кніг, з каторых я маю прывілею ўзяць дадому, зь некаторымі выняткамі, бадай-што кажную кнігу. На гэтым месцы няхай мне дазволеным будзе выразіць маю падзяку Флярыдскаму Ўнівэрсытэту як і Адміністрацыі Бібліятэкі.

Культурны стаж зьяўляецца для перакладчыка няўхільнаю прадумоваю. Ён павінен быць абазнаным з агульным палажэньнем рэчаў і свабодную навуку сваю пашыраць і паглыбляць з дня на дзень. Жывучы ў іншым народзе, ён павінен прыглядацца, як жывуць людзі ў даным краю, пазнаваць тутэйшыя звычаі і абычаі. І ўсё, што ён бачыць там дрэннае, ён павінен адкінуць, але добрае і культурнае - прыймаць і старацца перафлянсоўваць на сваю родную глебу. Для тых, каторыя закідаюць яму перайманьне чужога, ён павінен мець гатовы адказ у тым сенсе, што нямашака гэтакае рэчы, як "чужое", хіба-што хто-небудзь хоча культурны гвалт даканаць над сабою. Бо ўсе мы, як народы, жывімся ўзаемным дасьведчаньнем і ўзаемным перайманьнем. Хто сягоньня мог-бы сказаць, што эвангелі, гэтак блізкімі для нас, зьяўляюцца чужою культураю ў нашым жыцьці. А ў грунце рэчы, калі зрабіць добры ўгляд у іх, яны запраўды астаюцца "чужымі" ў беларускай літаратуры. Сваё ці чужое - гэта вельмі адносныя выражэньні. Ступеня абазнаньня з прадметам творыць сабою неспасьцярожную перашкоду для адплыву ўласнага элемэнту ў пошуках духовых багацьцяў, якія наяўнымі стаюцца ўжо ў сваім краю і могуць, як калісьці, быць прадметам экспорту. Старажытная грэцкая культура ў розным часе, на розных мясцох, сярод розных народаў ставалася роднаю і нацыянальнаю культураю.

Плятонізм? Сама тэма мяне ўжо палохае. Бо тут крыецца небясьпека, што, гаворачы пра плятонізм, можна разьмінуцца з мэтаю. У плятанізьме ёсьць эсэнцыя або існасьць таго, чым Плятон дзеліцца з чытачом. Калі гэтую эсэнцыю чытач ня ўхопіць, тады чытаньне для яго будзе толькі чытаньнем літаратуры, да нічога неабавязваючае, і чытач можа астацца, пасьля прачытаньня Плятона, тым самым чалавекам, якім быў ён перад чытаньнем.

Наагул, пра плятонізм, як пра кажную іншую сыстэму ці сьветапагляд, гаварыць ня ёсьць рэчаю лёгкаю. Сама спроба вызандаваньня існасьці з плятанізму зьяўляецца рызыкоўнаю спробаю, і ўсё-ж, некаторыя характэрныя рысы для яго павінны быць знойдзенымі. У першую чаргу

можна знайсьці мамэнт мэтафізычны. Кажны бо чалавек раней ці пазьней зьвернецца паважна да пытаньняў, выкліканых у ім прысутнасьцю назіранае ім рэчаіснасьці фізычнага сьвету. Адказ тут, хай сабе хоць і ілюзорны, мусіць быць знойдзеным, калі чалавек мае весьці зроўнаважанае, спакойнае жыцьцё, карыснае для сябе і свае супольнасьці. Тут выступае Плятон з адказам болей выразным і пераконваючым, бо асінаваным на лягічным апорышчы.

Плятон верыў і навучаў, што Бог зьяўляецца добрым і бязьмежна мудрым, справядлівым і ўсемагутным у сваей існасьці; што ён прывёў да быцьця спасьцярожны сьвет з першапачаткавае і бясхвормнае матэрыі, паводля найболей дасканалых узораў або ідэяў, існуючых у Божым уяўленьні. Філязофія для Плятона - гэта веданьне праўдзівае натуры рэчаў, як выкрываючае тыя вечныя ідэі, паводля каторых усе рэчы былі ўхвармаванымі. Інакш кажучы - гэта веданьне таго, што ёсьць вечным, існуе абавязкава і няўхільна, і ёсьць незьнішчальным і нечасовым або ўзалежненым ад іншых чыньнікаў. Ведама, гэта не атрымліваецца пры помачы пачуцьцяў чалавека, гэтаксама як і не зьяўляецца яно прадуктам разуменьня, якое займаецца толькі тым, што ёсьць зьмінчвальным і мінаючым. Гэтаксама не зьяўляецца яно вынікам досьледу ці назіраньня. Яно ёсьць прадуктам нашага розуму, каторы, як удзельнік Божае натуры, мае ўроджаныя ідэі, каторыя адлюстроўваюць вечныя ідэі Бога. Тут выступае Адно. На дарозе контэмпляцыі над гэтымі ўроджанымі ідэямі, разважаючы пра іх і параўноўваючы іх зь іхнымі копіямі ў спасьцярожным сьвеце, розум можа займець гэтае праўдзівае веданьне рэчаў, якое называецца філязофіяю. Гэтак атрымліваецца вобраз таго, што магчыма назваць Плятонаваю сыстэмаю, як далёка можна яе ўхвармаваць зь ягоных дыялёгаў, каторыя, як ведама, ня былі сыстэматычнымі трактатамі, але свабоднымі гутаркамі ці канвэрсацыямі. Ягоныя пасьлядоўнікі або вучні, акадэмікі і нэоплятоністыя, часта разыходзіліся ў сваіх паглядах, і ўсё-ж, усе яны разам называюцца плятоністымі.

Вайна і мір - гэта яшчэ адзін аспэкт, які адносіцца да плятанізму. Старажытныя грэкі першымі ўздымалі пытаньне вайны і міру, а найболей папулярным зь іх быў Плятон, сын Арыстона. Плятон ня ставіць тут пятаньня на плошчы выграньня вайны ці праграньня яе. Плятон уздымае думку ў тым сэнсе, што вайна наагул павінна супыніць сваё існаваньне між народамі.

Маючы на ўвазе вайну, як найбольшае зло сярод народаў, Плятон шукае прычынаў вайны.

Як доўга будуць існаваць людзі свабодныя і паняволеныя, як доўга будуць існаваць свабодныя народы /нічога ня кажучы ўжо пра ўсякага роду Übermensch'аў/ і народы

паняволеныя, гэтак доўга ня будзе супакою на Зямлі. Як доўга будуць існаваць багатыя побач бедных, гэтак доўга варажнеча не патухне ў сэрцах людзей. Калі існуе вайна - існуе гэтаксама прычына яе. Калі існуе тэрор - існуе і прычына тэрору. /Для прыкладу: Сталін са сваімі таварышамі тэрарызаваў расейскую казну; гэтаксама і Пілсудскі са сваімі суродзічамі "грабіў" гэтую-ж казну/. Згэтуль высснаў, што ў першую чаргу, павінна быць устаноўленая паміж народамі справядлівасьць, пра якую ўладары нашых дзён ня хочуць голасна гаварыць, калі вайна мае быць вызлімінаванаю з жыцьця народаў. Бо і натуральным ёсьць: калі чалавек выгнаны з роднага кута і пазбаўлены рудымэнтарнага права на жыцьцё, дык яму нічога іншага не астаецца, як, упаўшы ў вадчай, хапацца за тэрор. Аўтары Унівэрсальнае Дэклярацыі Правоў Чалавека, здаецца, гэта мелі на ўвазе, калі сярод іншага, пісалі: "Прыймаючы пад увагу, што неабходным зьяўляецца замацаваньне правоў чалавека пастановамі права, каб ня быў ён змушаны, - даведзены да адчаю, - хапацца за бунт супроць тыраніі і ўціску".

Узважваючы пытаньне вайны і супакою, Плятон, пранікаючы псыхіку чалавека, вызначае яму філязафічнае ўзгадаваньне, як шлях да вырашэньня пытаньня і кажа:

"Пакуль філёзафы /чытай, мудрыя і чэсныя людзі -Я.П./ ня стануцца каралямі, або каралі і князі на гэтым сьвеце не займеюць духа і моцы філязофіі, і пакуль палітычная велічнасьць і інтэлектуальная мудрасьць ня злучацца ў вадно, і пакуль людзі паспалітыя, якія цяперака імкнуцца да аднаго ці другога паасобку, ня будуць змушанымі адыйсьці на бок, - да гэтае пары, гаспадарствы ніколі ня выратуюцца ад сваіх злыбедаў - ані, як я думаю, людзкі род..."

На тэмат адукацыі, узгадаваньня, навукі, Плятон гаворыць ува ўсіх сваіх дыялёгах.

Паводля таго што Плятон гаворыць, навука ёсьць навукаю і ўзгадаваньне - узгадаваньнем толькі ў рамах філязофіі. Гэта можа гучэць вельмі вузка, але гэта переважна для тых, па-першае, каторыя, будучы вучонымі, ня хочуць падпарадкавацца вымаганьням этыкі і, па-другое, для тых, каторыя, маючы спазор інтэлігэнтных людзей, не разумеюць значэньня ані навукі, ані этыкі. Бо навука, скажэм гэта проста - гэта мэханічны робат; філязофія, як Плятон яе разумеў - гэта мараль. Робат ня будзе карысным бяз этыкі /нават небясьпечным!/, але кіраваны этыкаю, станецца добраслаўленьнем для роду людзкага.

Найляпей гэты стан рэчаў на пачатку сёмае кнігі Політэі, ілюструе Плятон сваею прыповесьцю пра людзей, што, ад дня нараджэньня свайго, знаходзяцца ў падзямельнай пячоры. Чытаючы гэтую, глыбокую сваім зьместам

і прыгожую ў сваей вобразнасьці, алеґорыю, чалавек астаецца пад ўражаньнем, быццам Плятон адведаў Беларускі Народ, бачыў цяжкія ўмовы духовага жыцьця і стварыў гэтую цудоўную прыповесьць. Няма патрэбы нагэтым месцы апісваць агульна ведамы вобраз, але кажны зацікаўлены Беларус павінен чытаць уважна гэтую адзінаю ў сваім родзе нарацыю, якая ілюструе нам змаганьне асьвечанасьці супроць неасьвечанасьці.

Бо асьвечанасьць - зарука духовага прагрэсу.

– –

Фраґмэнты з аўтабіяґрафіі падаюцца тут зь некаторымі дапаўненьнямі, пасьля таго, як, з прычыны нястачы месца, у скарочанай хворме друкаваліся ў ньюёрскім "Беларусе" /мес. люты, 1985/.

Я спадзяюся, што цэласьць працы будзе апублікована /плянуецца і ў ангельскай мове/ пасьля таго,як выдрукуюцца тыя рэчы, каторым, паводля майго пераканання, павінна быць выдзелена першае месца.

Я.П.

Ґэйнсвільл, Флярыда
16 ліпеня 1985 г.



Published by The Byelorussian Charitable Educational Fund, Inc.
Printed in The United States of America

— — • — —

Наколькі палепшыце і пабольшыце душу вашую, нагэтулькі палепшыце правы вашыя і ўзбольшыце граніцы.

Адам Міцкевіч